*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*


# Слонімскі край



2020, № 7(53). Чэрвень


## Слонім у 1991 годзе

Гэта быў пераломны год у нашай гісторыі. Неспадзявана хуткае развітанне з Савецкім Саюзам і з’яўленне незалежнай Рэспублікі Беларусь. Трагедыя для адных і радасць для іншых. Нярэдка надзеі змяняла расчараванне…

*Працяг на ст. 12*

## НКУС у Слоніме, 1939 год



*НКВД в Западной Беларуси: сентябрь — декабрь 1939 г.: документы и материалы. — Минск — Москва, 2019. — 384 с.*

Кожная такая кніга — падзея. Дзясяткі дакументаў з архіваў, з якіх большасць апублікаваны ўпершыню. Безумоўна, без адкрыццяў не бывае. У архіўных дакументах знаходзяцца згадкі пра Слонім і слонімцаў у 1939 годзе.

“НКУС у Заходняй Беларусі…” — гэта сумеснае выданне Дэпартамента па архівах і справаводстве Мінюста, Нацыянальнага архіва, Цэнтральнага архіва КДБ РБ і расійскага фонду *“Историческая память”*. Яно складаецца

*Працяг на ст. 3*

ХРОНІКА

# Імгненні жыровіцкіх святаў

20 траўня ў Жыровічах згадалі пра 550-я ўгодкі з'яўлення Жыровіцкай іконы Божай Маці і пра 500-годдзе паўторнага з'яўлення, а таксама пра паўтысячы гадоў з часу заснавання манастыра. Урачыстае святкаванне юбілеяў адкладзена на пазнейшы час, а пакуль адбылося сціплае адзначэнне ўгодкаў. Яно запомніцца надоўга і будзе запісана ў летапіс для нашчадкаў. Святары былі ў ахоўных масках — каранавірус прынёс шмат бяды. З жыровіцкімі юбілеямі беларусаў павіншаваў кіраўнік дзяржавы.



***

У манастыр з Расіі прывезлі 12 званоў, якія з часам усталююць на новую званіцу, што збіраюцца там пабудаваць. А пакуль для іх зрабілі званіцу часовую.



***

У сярэдзіне траўня ў Жыровічах каля ўваходу ў манастыр усталявалі помнік святару Серафіму Жыровіцкаму (Раману Шахмуцю, 1901 — 1946), закатаванаму сталінскімі катамі ў зняволенні. Двухметровая бронзавая фігура ўзвышаецца на гранітным пастаменце. Серафім Жыровіцкі прылічаны да ліку новапакутнікаў зямлі Беларускай.



***

На тэлеканале "Беларусь 1" 19 траўня выйшаў 26-хвілінны дакументальны фільм "Жыровічы. Пяць стагоддзяў гісторыі". У ім, між іншым, кандыдат мастацтвазнаўства Галіна Флікап-Світа распавяла, як нядаўна знайшла ў архіве Інстытута гісторыі Расійскай Акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу дакумент: *"Маршалак Вялікага княства Літоўскага Аляксандр Гіляры Палубінскі заказаў у 1676 годзе выраб іканастаса разьбяру Яну Радванскаму. І вось гэтая інфармацыя сведчыць сапраўды пра дату вырабу іканастаса".* Афіцыйна лічылася, што ён створаны ў XVIII стагоддзі.

У фільме таксама была агучана наступная інфармацыя: *"Сёння ва Успенскім саборы іконы сучасных майстроў. Тыя першыя ў музейных зборах. Штосьці ў саміх Жыровічах, а сем помнікаў — у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Іх перадалі ў 2009-м".* Там праводзілася іх рэстаўрацыя.

***

На манастырскім падворку каля Жыровічаў да юбілеяў узвялі невялікую капліцу ў гонар з'яўлення цудатворнай іконы Божай Маці. Будаўніцтвам займаўся протаіерэй Дзмітрый Сёмуха са Слоніма.

●Генадзь Гурскі

# НКУС у Слоніме, 1939 год

*Працяг, пачатак на ст.1.*

пераважна з дакументаў НАРБ і ЦА КДБ, да якіх дадалі амаль два дзясяткі дакументаў, раней апублікаваных у зборніках, якія ў апошнія дзесяцігоддзі выйшлі ў Мінску, Варшаве, Маскве і Кіеве. Перад чытачом адкрываецца карціна маштабных падзей у Заходняй Беларусі ў першыя месяцы савецкай улады ў 1939 годзе. НКУС быў адной з галоўных дзеючых там сіл — праводзіў "зачыстку". Аператыўныя групы НКУС атрымлівалі наступныя задачы: *"…арыштуйце і аб'явіце закладнікамі найбуйнейшых прадстаўнікоў з памешчыкаў, князёў, дваран і капіталістаў"*, *"арышты духоўных асоб пакуль не рабіць, асабліва каталікоў"*, *"наладзіць неабходную агентурна-аператыўную працу па выяўленні і рэпрэсаванні к[онтр]/р[эвалюцыйных] арганізацый, груп і асоб, якія супрацьдзейнічаюць і зрываюць арганізацыю новай улады"*.*




## Арышты

З уступленнем у Заходнюю Беларусь Чырвонай Арміі польская адміністрацыя і сілавыя структуры перасталі існаваць, але засталіся людзі — толькі нямногія ўцяклі ў Літву, Румынію ці ва ўласна Польшчу, акупаваную немцамі. Гэта былі і мясцовыя жыхары, і палякі, прысланыя сюды на працу, асаднікі. Сярод іх ішлі арышты, а пасля пачаліся дэпартацыі. "Зачысцілі" рускіх і ўкраінскіх эмігрантаў, якія ў пачатку 1920-х уцяклі ад бальшавіцкага тэрору (а некаторыя з іх ваявалі ў складзе розных вайсковых фармацый). Былі арыштаваныя ўцекачы з савецкай Беларусі ў Польшчу ў міжваенны час — яны спадзяваліся, што выратаваліся з "савецкага раю", але памыліліся. Пасля вывучэння архіваў польскай паліцыі НКУС "разабраўся" з яе агентурай. Напрыклад, быў арыштаваны Канстанцін Трафімаў-Трушан, былы сакратар падпольнага акруговага камітэта камсамола ў Слоніме, сакратар ЦК камсамола Заходняй Беларусі. У траўні 1938 года яго схапіла ў Вільні польская паліцыя. Арганізатар-нелегал, перапраўлены з БССР, выдаў 20 чалавек, двое з іх былі з слонімскай арганізацыі.

Дакумент НКУС сведчыць: *"Пры распрацоўцы паліцэйскага архіву г. Слоніма выяўлена: паліцэйскіх — 108 чал., сышчыкаў — 26 чал., правакатараў — 4 чал, афіцэраў — 25 чал."*. У гэтым архіве знайшлі спісы сябраў польскіх палітычных і грамадскіх "контррэвалюцыйных" арганізацый у горадзе і павеце. Таксама *"выяўлены спіс асоб, якія нелегальна перайшлі мяжу з СССР у колькасці 30 чал."*. Былі *"прыняты меры да ўстанаўлення і арышту гэтых асоб"*.

## Супраціўленне

Для НКУС восень 1939-га ў Заходняй Беларусі не была безпраблемнай. Пачало разгортвацца Супраціўленне — мірнае і ўзброенае. Яго аснову склалі палякі, але далучаліся і беларусы. Выхаваная ў польскай патрыятычнай традыцыі моладзь не хацела мірыцца з новай уладай і яе парадкамі: з'яўляліся антысавецкія лістоўкі, вывешваліся польскія сцягі, гучалі стрэлы…

У запісцы наркама НКУС БССР Лаўрэнція Цанавы наркаму ўнутраных спраў СССР Лаўрэнцію Берыі ад 21 верасня 1939 года паведамлялася пра "банду" з 300 чалавек з гарматамі ў Налібоцкай пушчы. Далей у дакуменце чытаем: *"Тое ж у меншай колькасці ў раёне Слонім. Таксама выдзелены часткі Р*[абоча]-*С*[ялянскай] *Ч*[ырвонай] *А*[рміі] *для ліквідацыі"*. У лістападзе 1939-га за паспяховую ліквідацыю "бандгруп" на тэрыторыі Слонімскага, Навагрудскага і Лідскага раёнаў быў прадстаўлены да ордэна Леніна камандзір асобага батальёна, капітан Аляксандр Якаўлеў.

## Самасуды

Высвятляецца, што ў дакументах НКУС згадваюцца выпадкі самасудаў, рабункаў восені 1939-га. Але яны толькі фіксаваліся. Аказваецца, што часовыя органы савецкай улады на месцах часам раілі актывістам не цырымоніцца з прадстаўнікамі старой улады, а адказнасці ніякай не будзе. І тыя дзейнічалі. Некалькі фактаў жахлівых забойстваў вядомыя

*Працяг на ст. 4*

# НКУС у Слоніме, 1939 год

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3.*

на Слонімшчыне. НКУС ставіла пытанне перад кіраўніцтвам Баранавіцкай вобласці аб недапушчэнні самасудаў.



*Супрацоўнікі НКУС у Слоніме*

## Выбухоўка для затаплення Слоніма і "дыверсанты"

У аператыўнай зводцы № 55 НКУС БССР ад 5 лістапада 1939 года, якую атрымаў сакратар ЦК КП(б) Панцеляймон Панамарэнка, згадваецца гісторыя з планамі затаплення Слоніма. Для таго, каб спраўдзіць, наколькі яна адпавядае сапраўднасці, трэба праводзіць архіўныя пошукі.

У дакуменце чытаем: "Данясеннямі агентуры высвятляецца, што за г. Слонімам ў шлюзы ракі Шчары адступаючымі польскімі войскамі былі закладзены выбуховыя рэчывы.

Дапытаны па сутнасці выкладзенага інжынер па абсталяванні і эксплуатацыі гэтых шлюзаў Канарскі паказаў, што ад маёра польскай арміі Сальніцкага, які з'яўляецца інжынерам-гідратэхнікам, ён меў шыфр, у адпаведнасці з якім было ўстаноўлена, у якіх выпадках ён мог адкрыць шлюзы для таго, каб затапіць прылеглую да ракі Шчары мясцовасць.

У распараджэнні, дадзеным яму камандаваннем польскай арміі ў пісьмовай форме, пазначалася, што пра падняцце шлюзаў могуць даць распараджэнне толькі маёр Сальніцкі ці шэф фартыфікацыі ў г. Баранавічах капітан Грыневіч. Дадзены ж яму шыфр умоўна называў кожную плаціну і пазначаў, на колькі сантыметраў падняць ваду для таго, каб зрабіць затапленне. Кожная плаціна (усяго іх 14) мела свой нумар, і па шыфры было ўстаноўлена, што ў тым выпадку, калі трэба будзе падняць ваду ў плаціне, то павінны былі быць названы ўмоўныя прозвішча і імя, для яго — Канарскага — гэта азначала нумар плаціны, і далей пазначалася, што названай асобе трэба выплаціць пэўную суму злот[ых], што азначала, што на вышыні названай лічбы варта падняць у рацэ ваду.

Рака Шчара мае ваенна-стратэгічнае значэнне, пры абароне яна ўтрымлівае наступленне праціўніка, а ў выпадку адступлення, шляхам выбуху плацін, яна затапляе вялікую тэрыторыю, што абцяжарвае рух войскаў.

У выпадку выбуху шлюзаў згаданай ракі палова горада Слоніма і прылеглыя населеныя пункты затапляюцца.

Інжынер Канарскі намі затрыманы.

Вядзем следства".

У зборніку дакументаў знайшоўся працяг гэтай гісторыі. У лістападзе 1939-га група супрацоўнікаў НКУС БССР была прадстаўлена да дзяржаўных узнагарод. Упаўнаважаны 3-га аддзялення Слонімскага павятовага аддзела НКУС сяржант дзяржбяспекі Канстанцін Палогін быў прадстаўлены да медаля. Ён выявіў контррэвалюцыйную арганізацыю *"Федэрацыя саюзаў абароны радзімы"* і створаную ёй *"дыверсійную групу, якая рыхтавала выбух плаціны на рацэ Шчара"*. У Слоніме Палогін быў аператыўным супрацоўнікам

чэкісцкай групы, прымаў удзел у шэрагу аператыўных аперацый, *"асабіста выявіў і арыштаваў 37 агентаў паліцыі і інш*[ага] *к*[онтр]*р*[эвалюцыйнага] *элементу".* Застаецца адкрытым пытанне наконт таго, што "дыверсійная група" насамрэч была і рыхтавала выбух. За толькі знойдзеную выбухоўку медаль маглі і не даць.

## Бежанцы

Восенню 1939 года Слонім напоўніўся бежанцамі з Польшчы. Ад нацыстаў уцякалі пераважна яўрэі. Жылля для іх не хапала. У першай палове лістапада ў Слоніме ўлады налічылі 2000 бежанцаў з Польшчы. Гэта было больш, чым у Гродне, Баранавічах, але значна менш, чым у Брэсце і Беластоку. Для аказання ім дапамогі савецкія ўлады выдаткавалі 15 тысяч рублёў, менш, чым у Баранавічах і Гродне. Са Слоніма ва усходнія вобласці БССР вывезлі 544 бежанца, засталося 1456. Дарэчы, на ўсходзе бежанцаў мясцовыя жыхары не заўсёды сустракалі добра, здараліся канфлікты.

## Агентура

НКУС было б цяжка хутка арыентавацца на новай тэрыторыі, каб не агентура, сетка якой была створана ўжо ў першыя месяцы. Яна ахоплівала большасць населеных пунктаў. Агенты паведамлялі пра "ненадзейных" асоб з мясцовых жыхароў, пра антысавецкія выказванні ці незадавальненне мерапрыемствамі савецкай улады.

З аператыўнай зводкі № 51 НКУС БССР ад 22 кастрычніка 1939 года: *"Агентурная праца*

*[…] Ляснік вёскі Балты Дзевяткаўскай воласці Слонімскага павета Шурко Сцяпан наведвае кулака Беляўскага, які жыве ў вёс[цы] Мізгіры…, дзе збіраюцца і іншыя, не ўстаноўленыя пакуль крыніцай асобы. На гэтых зборышчах Шурко вядзе антысавецкую агітацыю і распаўсюджвае правакацыйныя чуткі. Ён гаварыў: "Чырвоная Армія адступіла за Буг таму, што яна слабая супраць заходніх дзяржаў, і я ўпэўнены, што не пройдзе і двух месяцаў, як Англія і Францыя адновяць Польшчу". Пазначаную групу абстаўляем агентурай у мэтах хуткай яе ліквідацыі".*




*Слонімцы і партрэты савецкіх правадыроў, верасень 1939-га*

## "Пажар" і выбары

Незадаволеных савецкай уладай хапала. Пабачыўшы, як НКУС распраўляецца з адкрытымі праціўнікамі, іншыя затаіліся, дзейнічалі асцярожна, цішком шкодзілі. У аператыўнай зводцы № 50 НКУС БССР ад 20 кастрычніка 1939 года чытаем: *"У гор. Слоніме на выбарчым участку, дзе праходзіў сход па пытанні падрыхтоўкі да выбараў і абмеркавання кандыдатуры ў дэпутаты Народнага сходу, пасля заканчэння прамовы старшынём участковай камісіі хтосьці з прысутных на ўсю залу крыкнуў "пажар", чым стварыў паніку, і ўсе прысутныя кінуліся да выхаду.*

*Насамрэч ніякага пажару не было, а згаданы выкрык меў на мэце сарваць сход па абмеркаванні кандыдатуры ў дэпутаты Народнага сходу".*

На выбарах здараліся кур'ёзныя сітуацыі. З аператыўнай зводкі № 52 НКУС БССР ад 25 кастрычніка 1939 года: *"У выбарчым участку вёс*[кі] *Якімавічы Альбярцінскай акругі Слонімскага павета старшыня выбарчай камісіі Перлянаў ускрыў выбарчую скрыню ў 16 гадзін, лічачы галасаванне скончаным. Урна была апячатана зноў і галасаванне працягнута".*

## "Грубыя скажэнні"

З дакладной запіскі Упраўлення НКУС па Баранавіцкай вобласці ў НКУС БССР "Пра скажэнне палітыкі УКП(б) і Савецкага ўраду па Слонімскім павеце" ад 20 снежня 1939 года, падпісанай палкоўнікам Місюравым:

"Кіраўнікі Слонімскага павета, у асобе сакратара павятовага камітэта УКП(б) тав. Новікава і старшыні павятовага выканкама тав. Колатава, у сваёй практычнай працы дапускаюць

*Працяг на ст. 6*

# НКУС у Слоніме, 1939 год

*Працяг, пачатак на ст. 1, 3-5*

грубыя скажэнні палітыкі партыі і Савецкага ўраду па працы ў вёсцы.

На нарадзе старшынь валасных і сельскіх камітэтаў 22 лістапада 1939 г. тт. Новікаў і Колатаў далі ўказанні аб нацыяналізацыі памешчыцкіх земляў і належачай ім маёмасці, не даўшы па гэтых пытаннях тлумачэнняў.

Праводзячы ў жыццё гэтыя ўказанні, старшыні валасных і сельскіх камітэтаў сталі на прамы шлях раскулачвання сялянскіх серадняцкіх гаспадарак, забіраючы ў іх усю маёмасць аж да хатняй птушкі, што пацвярджаецца наступнымі данымі:

У вёсцы Клепачы Міжэвіцкай воласці сельскім камітэтам у шасці сялянскіх гаспадарак, якія мелі да 13 га зямлі, была забраная ўся асабістая маёмасць і канфіскавана зямля, прычым уся дробная скаціна без усялякага ўліку патрэбнасці была раздадзена насельніцтву, якое на другі ж дзень пасля гэтага ўсю гэтую скаціну пазабівала на мяса. У вёс[цы] Ганькі сельскі камітэт забраў усю маёмасць у васьмі сялянскіх гаспадарак, маючых ад 7 да 12 га зямельнага надзелу, а ў Чамярской воласці канфіскацыя маёмасці адбывалася на асабістай глебе, у выніку чаго ў чатырох сялянскіх гаспадарак, якія не падлягаюць канфіскацыі зямлі, Часовым Камітэтам была забрана ўся маёмасць, у тым ліку і куры.

Такія ж факты мелі месца і па іншых валасцях Слонімскага павета.

У выніку такога становішча ўсё насельніцтва павета стала прадаваць і разбазарваць сваю скаціну без якой-небудзь неабходнасці.

І толькі тады, калі гэта раскулачванне насельніцтва прыняло шырокія формы,



сакратар павятовага камітэта УКП(б) тав. Новікаў і старшыня Часовага кіравання тав. Колатаў склікалі нараду партаргаў, сакратароў валасных камітэтаў УКП(б), але і на гэтай нарадзе пытанне аб перагібах завострана не было і канкрэтных указанняў аб выпраўленні перагібаў дадзена не было.

Акрамя таго, па дадзеных, якія маем, з боку сакратара укама УКП(б) тав. Новікава ёсць факты п’янства і бытавога раскладання.[…]

Пра ўсе гэтыя агіднасці намі інфармаваны сакратар абкаму УКП(б) тав. Тур.

Справа аб скажэннях палітыкі партыі ў Слонімскім павеце разбіралася на бюро абкаму. На тав. Новікава і тав. Колатава накладзена партыйнае спагнанне: тав. Новікаву — строгая вымова з папярэджанем, тав. Колатаву вымова. Пастаўлена пытанне перад ЦК аб адкліканні тав. Новікава са Слоніма”.

Дакладная Туру начальніка Слонімскага павятовага ўпраўлення НКУС Талмачова была апублікавана раней (чамусьці без даты).** У ёй ёсць дадатковая інфармацыя па справе. Па-першае, згадваецца намеснік Колатава нехта Ваткоў. Па-другое, называецца іншая дата згаданай нарады ў Слоніме — не 22 лістапада, а 22 кастрычніка. У дакуменце згадваецца, што раскулачванне сераднякоў адбылося ў Кастровіцкай, Дзевяткавіцкай, Дзярэчынскай, Чамярской, Жыровіцкай і Курылавіцкай гмінах. У Дзевяткавічах мясцовы часовы камітэт мабілізаваў “актыў” для канфіскацыі зямлі і скаціны. Забіралі і ў сераднякоў. Пры гэтым адбываліся крадзяжы кішэнных гадзіннікаў і нават жаночай бялізны. У вёсцы Басіны зямлю і скаціну неабгрунтавана, як лічылі нават у НКУС, забралі ў чатырох гаспадарак.

*“Усё гэта прывяло да таго, што пачынаючы з 26 лістапада г*[этага] *г*[ода] [1939-га] *па ўсім Слонімскім павеце з’явіўся масавы забой скаціны, продаж па неверагодна нізкай цане мяса і жывёлы, таксама ішоў распродаж коней,* — пісаў лейтэнант дзяржбяспекі Талмачоў. *— У практыцы сваёй працы тт. Новікаў, Колатаў і Ваткоў дапусцілі грубую палітычную памылку…”.*

Гэты прыклад паказвае, што дакументы ў падобных зборніках не даюць поўнай карціны, але заахвочваюць да яе аднаўлення з дапамогай розных крыніц.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

**Усе дакументы ў зборніку на рускай мове, цытаты падаюцца ў нашым перакладзе на беларускую мову.*

***Беларуская нацыя: узʼяднанне. Верасень 1939 г. — чэрвень 1941 г.: Зб. дакументаў і матэрыялаў. — Мінск: БДУ, 2004. С. 166-168.*

ЖЫРОВІЦКІЯ СТАРОНКІ

# Ёсць энцыклапедыя!

*Жыровічы: пад святым Пакровам. Энцыклапедыя. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2020. 232 с.*




Энцыклапедыя "Жыровічы: пад святым Пакровам" — выдатная задумка, як і яе рэалізацыя. У кнізе каля 200 артыкулаў пра гісторыю і сучаснасць Жыровічаў, амаль тры сотні здымкаў, з іх каля двухсот каляровыя. Напісалі тэксты выкладчыкі Мінскіх духоўных акадэміі і семінарыі. Сярод іх — дактары гістарычных і царкоўных навук, кандыдаты багаслоўя і мастацтвазнаўства. Яны пастараліся асвяціць асноўныя факты, падзеі, персаналіі. Большасць артыкулаў даволі грунтоўныя, але ёсць і невялікія заўвагі.

Некаторыя артыкулы няпоўныя. Напрыклад, пра званіцу ў Жыровічах. Чамусьці няма даты яе пабудовы, хаця інфармацыя пра гэта вядомая. Няма асобнага артыкула пра перыёдык "Жыровіцкая абіцель", рэдактарам якога з 1997 года з'яўляецца манах Іаан (Алег Бембель, паэт Зьніч). Толькі згадалі пра яго ў нататцы пра манаха Іаана, але ў беларускамоўным тэксце назву выдання чамусьці падалі па-руску.

У артыкуле "Вайна Расіі з Рэччу паспалітай 1654-67" чытаем: *"У выніку антыўніяцкай скіраванасці дзеянняў Расіі амаль дашчэнту былі знішчаны Жыровічы з базыльянскім манастыром".* Але не ўсе даследчыкі згодныя, што манастыр быў знішчыны — толькі разрабаваны. У згаданым артыкуле наўпрост пішуць пра расійскую акупацыю, пра спусташэнне, якое прынёс вораг, пра беларусаў, якіх, як рабоў, гналі ў Расію, пра барацьбу партызанаў. На жаль, у энцыклапедыі няма важнай даты вызвалення Жыровічаў ад маскоўскай акупацыі войскам ВКЛ, якім камандаваў вялікі гетман Павел Сапега. Адбылося гэта 24 чэрвеня 1660 года.

Ёсць заўвагі і па персаналіях. Чаму ж не ўключылі зацемку пра жыровіцкага краязнаўцу, археолага Ігара Падгарадзецкага? Ці пра слонімца Аляксандра Асіпчыка, які ў 1947 годзе ў Германіі выдаў гістарычны нарыс "Цудатворны Абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі Манастыр". Пра паэтку, вязня сталінскіх лагераў, шчырую верніцу Ларысу Геніюш, якая напісала цудоўны верш пра Жыровічы.* Добра, што ёсць нататка пра слонімскага паэта Алега Лойку, таксама змешчаны яго творы.

Каштоўныя тэксты — бібліяграфічны агляд "Гісторыя вывучэння мінулага Жыровіцкага манастыра" і спіс літаратуры з 64 пазіцый.

Важна, што жыровіцкая энцыклапедыя — беларускамоўная (на рускую і англійскую мовы перакладзены толькі галоўныя артыкулы). У часы імклівай русіфікацыі гэта даніна павагі нашым продкам. Калі здарыўся цуд у Жыровічах у далёкім 1470-м, там усе мясцовыя жыхары гаварылі выключна па-беларуску — і магнаты, і сяляне.

*Працяг на ст. 8*

# Ёсць энцыклапедыя!




*Працяг, пачатак на ст. 7*

Тысяча асобнікаў энцыклапедыі — вядома ж малавата, і, відаць, у будучыні давядзецца рабіць другое выданне.

●Сяргей Ёрш

Фота: bel-en.by

**Геніюш Л. Ступаю моўчкі па святой зямлі… // Слонімскі край, 2018, № 12(34). Снежань. С. 14-15.*

# Дакрануцца да таямнічай гісторыі

*Жыровіцкі Свята-Успенскі манастыр. Жировичский Свято-Успенский монастырь. Zhirovichi Svyato-Uspensky monastery /Аўтар тэксту — А. Ярашэвіч/. — Мінск: “Беларусь”, 2020. — 128 с.*

Трохмоўнае навукова-папулярнае выданне выйшла на замову і пры фінансаванні Мініфарма. Разлічана яно нібыта на турыстаў, але наклад у такім выпадку мізэрны — 800 асобнікаў. З іншага боку, якія цяпер турысты?!

Кніга якасна зроблена, у ёй мала тэксту, але шмат ілюстрацый. Амаль усе фотаздымкі цяперашняга часу.

Аляксандр Ярашэвіч добра папрацаваў з тэкстам, у ім сцісла і змястоўна выкладаецца асноўная інфармацыя пра гісторыю Жыровіцкай абіцелі. Закранае пытанне з паходжаннем назвы населенага пункта. Піша, што ўжо ў XVII ст. *“Жырава” “лічылася старадаўняй”* назвай. Але ці не галоўная ўвага — славутай іконе: яе з’яўленню, апісанню, ушанаванню. Ярашэвіч дае цытаты з дакументаў, старых кніг, і чытач адчувае, як дакранаецца да таямнічай гісторыі, якой больш за паўтысячы гадоў.

Але ўсё ж кніга пра Жыровіцкі манастыр, які з’явіўся ў гэтым маляўнічым куточку Слонімшчыны зусім не выпадкова. Аляксандр Ярашэвіч не проста апісвае вядомыя факты, але спрабуе іх прааналізаваць, нешта з раней апублікаванага нават узяць пад сумненне. Напрыклад, ён дапускае, што згадкі *“пра разбурэнне манастыра…* [падчас ваенных дзеянняў у сярэдзіне XVII стагоддзя] *магчыма, перабольшаны”*, а ад маскоўцаў пацярпелі *“гаспадарка манастыра і мястэчка”*. Бо ў той час там праводзіліся кангрэгацыі базыльян. А ў 1661-м кангрэгацыя падзякавала святару Самсону Барэйшы за тое, што змог захаваць манастыр ад чужых жаўнераў.




А колькі ў далейшай гісторыі яшчэ такіх выпадкаў будзе, калі Жыровіцкая абіцель проста цудам абмінала бяду.

Аўтар апісвае жыровіцкія храмы, разважае, хто ж мог быць архітэктарам Успенскага сабора. Піша пра яго перабудовы ў XIX стагоддзі: *“Не зусім ясна, калі храм страціў фасадныя вежы з гадзіннікам і двума званамі”.* Ярашэвіч падрабязна апісвае старажытны іканастас у саборы і адзначае: “*Абразы прарокаў і апосталаў заставаліся на сваім месцы да нашых дзён і ў 2005 г. заменены творамі сучасных іканапісцаў “в древнерусском стиле”.*

А яшчэ ў кнізе можна прачытаць пра жыровіцкія скарбы. А імі былі бібліятэка і архіў манастыра. *“Кнігі і рукапісы… разыходзіліся па свеце”,* — піша Аляксандр Ярашэвіч. Цяпер аскепкі гэтых “гістарычна-мастацкіх каштоўнасцяў” параскіданыя па розных краінах.

Ярашэвіч не стаў пісаць пра гісторыю Жыровіцкага манастыра ў часы незалежнай Беларусі, а параіў пра яе пачытаць *“у кнізе ігуменні Гаўрыілы”.*

●Генадзь Гурскі

# 360 гадоў вызвалення Жыровічаў і Слоніма

15 траўня ў анлайн-фармаце адбыліся XVI Міжнародныя кнігазнаўчыя чытанні, прымеркаваныя да жыровіцкіх юбілеяў. Былі даволі цікавыя даклады. Дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства БДУ Марына Свістунова прачытала тэкст “Да пытання пра аўтарства дзвюх частак Жыровіцкага рукапісу пачатку XVII стагоддзя: моўны аналіз”. Яны захоўваюцца ў Расіі і Украіне, аўтарства неабгрунтавана прыпісваецца іераманаху Феадосію Баравіку.

Намеснік гендырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алесь Суша выступіў з паведамленнем пра паходжанне Жыровіцкага Евангелля. Найхутчэй яно было напісана ў сярэдзіне XVI стагоддзя ці крыху пазней у Вільні.

Галіна Нячаева з Веткаўскага музея распавяла пра новыя матэрыялы пра Жыровіцкую ікону Божай Маці ў стараабрадніцкіх рукапісах канца XVII — пачатку XVIII стагоддзяў. Наталля Гардзенка з Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва згадала пра дзейнасць Беларускага праваслаўнага Жыровіцкага брацтва на чужыне.

Дзяніс Лісейчыкаў з




Нацыянальнага гістарычнага архіву выступіў з дакладам “Дзве мужчынскія фігуры”: які сюжэт адлюстраваны на гербе Жыровічаў?”. Ён мяркуе, што адна з фігур на гербе — гэта кароль Ян Казімір, які ўкленчыў перад іконай. Але вартая ўвагі і іншая версія — насамрэч гэта мог быць вялікі гетман ВКЛ Павел Сапега. Менавіта пад яго камандаваннем ліцьвінскае войска 24 чэрвеня 1660 года вызваліла Жыровічы ад маскоўцаў (неўзабаве 360-я ўгодкі!). У той жа дзень польскае войска Стэфана Чарнецкага вызваліла Слонім. Сапега і яго войска маліліся перад Жыровіцкай іконай Божай Маці перад пераможнай бітвай пад Палонкай 28 чэрвеня 1660-га. Яе называлі сапраўдным цудам, якое выратавала краіну.

Відэа выступаў навукоўцаў на канферэнцыі даступнае на канале Ales Susha на YouTube.

●СЁ



# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6, 2020 г.*

## I. Солтаны — фундатары праваслаўнага манастыра

Шырокія ўгоддзі і пушчы Жыровічаў першапачаткова былі ў каралеўскай уласнасці, а ў XV стагоддзі кароль Казімір IV Ягелончык іх надаў за вялікія заслугі роду Солтанаў. Пачынальнікам роду быў у XV стагоддзі дзяржаўны дзеяч ВКЛ Аляксандр Солтан.

У Старых Жыровічах месціўся двор Солтанаў, а вёска была так названа ў адрозненне ад новых Жыровічаў, дзе на месцы з'яўлення святога абраза Солтан пабудаваў драўляны храм у гонар Найсвяцейшай Багародзіцы. Вестка пра з'яву абраза Божай Маці хутка разнеслася па акрузе. Мноства багамольцаў стала сцякацца ў Жыровічы для пакланення, вакол храма сяліліся сяляне, якіх прыцягвала святыня і багатае пашамі, лясамі наваколле.

Прывілеем ад 20 сакавіка 1493 года Вялікі князь Літоўскі Аляксандр пацвердзіў права перадачы Жыровічаў маршалку Солтану разам з навакольнымі вёскамі, з лясамі, азёрамі і сажалкамі. Гэта былі Літва, Вербалаты, Заверша, Русакова, Залессе, Акунінава, Міронім, Скоўдзічы ў Слонімскім павеце.

Першы фундатар Жыровіцкага манастыра Аляксандр Солтан 10 студзеня 1549 года перадаў свае маёнткі, у тым ліку і Жыровічы, а таксама грошы ў спадчыну сваёй жонцы Фядоры, дачцэ князя Алехны (ці Аляксандра) Васільевіча Глазыны. Гэта адзін з найбуйнейшых княжацкіх родаў у Смаленскай зямлі ў



XV ст. М. Любаўскі вызначае іх як нашчадкаў "смаленскіх Рурыкавічаў". Князь Алехна Глазына — смаленскі акольнічы, у 1494-1500 гадах быў намеснікам Лучына, ажаніўся з дачкой гаспадарскага пісара Сямёна Сапегі, з якой меў адзіную дачку Фядору. Пасля смерці бацькоў Фядора была выдадзена замуж сваім дзядзькам, гаспадарскім



*Лазковіцкі крыж*

сакратаром Іванам Сапегам за маршалка гаспадарскага Аляксандра Солтанавіча, які валодаў Жыровічамі.[1]

На загад бацькі Фядоры быў зроблены Лазковіцкі крыж. Як вынікае з надпісу, крыж вырабілі ў 7003 годзе (1495-м) для царквы святога Георгія ў Лазковічах. Напэўна, гэта была вотчына князя на Смаленшчыне. Пасля захопу смаленскіх зямель Масквой князь Алехна Глазына застаўся ў ВКЛ, забраў з сабою крыж. У далейшым ён трапіў праз яго дачку Фядору да роду Солтанаў, уладальнікаў Жыровічаў і апынуўся ў Жыровіцкім манастыры. У 1732 годзе жыровіцкі архімандрыт Бенядзікт Трулевіч уклаў у Лазковіцкі крыж частку святога жыватворнага крыжа, вывезенага з Рыму ў 1726 годзе, пра што на крыжы быў зроблены надпіс. З XIX стагоддзя крыж знаходзіўся ў Мікалаеўскім саборы ў Вільні. У 1915 годзе, відаць, быў эвакуяваны ў Маскву. У 1926 годзе яго перадалі са сховішча Маскоўскага ювелірнага таварыства ў зборы Крамля. Ён захоўваецца ў музеі-запаведніку "Маскоўскі Крэмль".[2]

Лазковіцкі крыж — адна з галоўных хрысціянскіх святынь Беларусі, помнік ювелірнага мастацтва ВКЛ.

## Іван Аляксандравіч Солтан — фундатар новай каменнай царквы

Ад Аляксандра і Фядоры Солтанаў Жыровічы па спадчыне перайшлі да іх сына Івана Аляксандравіча Солтана. Каля 1520 года ў паселішчы

здарыўся моцны пажар, які знішчыў амаль усе будынкі і драўляны храм. Іван Солтан згадваецца ў пісьмовых крыніцах як фундатар, які пабудаваў новую вялікую каменную царкву. Адна з апошніх згадак пра маршалка слонімскага Івана Аляксандравіча Солтана адносіцца да 1572 года. У сваім тэстаманце ён перадаў жонцы, князёўне Марыне Васільеўне Саламярэцкай (дачцы князя Васіля Саламярэцкага, дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага), сваю частку маёнтка Жыровічы з цэрквамі, з фальваркам і г. д.[3]

●Святлана Брайчук

Працяг у наступным нумары

*[1] Памятники русской старины в западных губерниях империи, издаваемые по Высочайшему повелению П.Н.Батюшковым. Выпуск шестой. Текст к 18 рисункам. СПб., 1874. С.133-134.*

*[2] Тамсама.*

*[3] Digital Repository Polonica: Kolekcja Pawła Dobrochotowa [Электронны рэсурс] / http://www.repcyfr.pl/*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Прэзідэнт Польшчы ў Слоніме



Польскі прэзідэнт Ігнацы Масціцкі прыехаў у наш горад 19 верасня 1929 года. Урачыстую сустрэчу яму наладзілі на Ружанскай вуліцы, дзе пабудавалі "трыумфальную браму". На аўтамабілі ён праехаў на Гандлёвую плошчу, адкуль павярнулі на вуліцу Сянкевіча, перад саборам паехалі направа — на Міцкевіча і далей — на Бернардынскую. Масціцкі спыніўся на адпачынак у старастве, якое тады займала былы будынак кляштара бернардынцаў (цяпер — інтэрнат медвучэльні). Вечарам быў канцэрт віленскіх артыстаў.

20 верасня быў асноўны дзень візіту прэзідэнта Польшчы ў Слонім. З самага ранку каля будынка старства сабраліся тысячы людзей. А 9-й гадзіне яны горача віталі Ігнацы Масціцкага, які выйшаў з будынка. Гэты момант і зафіксаваў фатограф Вітальд Пікель. Здымак быў апублікаваны ў часопісе "Польскі салдат"* У подпісе пад ім паведамляецца, што польскі прэзідэнт праходзіць перад ганаровай вартай 80-га пяхотнага палка.

Ужо пасля быў візіт на будаўніцтва школы па вуліцы 3-га Мая (Скробаўскай, цяпер — Чырвонаармейская), удзел у адкрыцці краязнаўчага музея і гутарка з яго заснавальнікам Язэпам Стаброўскім, паездкі ў Альбярцін да графа Пуслоўскага і ў Жыровічы. Адтуль яго картэж аўтамабіляў накіраваўся на Быцень.

●СЁ

**"Żołnierz Polski", 1929, № 42, 20 кастрычніка.*

# Прадаюць сінагогу, помнік архітэктуры XVII стагоддзя

У пачатку чэрвеня ў СМІ выбухнула навіна: прадаюць слонімскую сінагогу, помнік архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя. Паведамлялася, што выставіў яе на продаж аддзел культуры райвыканкама і нават называлася сума. Пра гэта напісалі рэспубліканскія і замежныя СМІ.

Не верылася, бо як жа планы па стварэнні музея? Было ж столькі сустрэч, спецыялісты абследавалі будынак. Называліся сумы, якія трэба будзе сабраць з дапамогай замежных



спонсараў... Аднак сапраўды ёсць рашэнне выканкама ад студзеня 2020-га. Дзіўна, што за гэтыя месяцы ніхто не звярнуў на яго ўвагу.

Будзем спадзявацца, што з'явіцца афіцыйны каментар наконт лёсу сінагогі.

# Слонім у 1991 годзе



*Працяг, пачатак на ст. 1*

Пачыналіся тыя самыя 1990-я, пра якія здымаюць фільмы, якімі палохаюць. Наўрад ці хто хоча ў іх вярнуцца. Хіба толькі людзі, якія пакутуюць ад настальгіі па часах сваёй маладосці… А для астатніх мы прапануем падарожжа ў 1991 год — змяшчаем падборку здымкаў, зробленых тады ў нашым горадзе.

Здымкі адшукаліся ў зборах Нацыянальнай бібліятэкі Ізраіля. Аўтарамі пазначаны Яфім Бабушкін і Уладзімір Левін. Іх цікавілі сінагогі, якія захаваліся ў Слоніме. Але ў кадр траплялі і іншыя будынкі, а таксама слонімцы. Магчыма, хтосьці пазнае на іх сябе ці сваіх сваякоў, сяброў.

За гэтыя дзесяцігоддзі змяніўся Слонім, сталі іншымі і мы. Але на здымках мы бачым яшчэ іншы свет, для цяперашняй моладзі невядомы, незразумелы і далёкі. Ён ужо стаў цаглінкай у гісторыі пад нумарам 1991.



*Бар каля сінагогі*



*Былы Народны дом (Раённы дом культуры) па вуліцы Васі Крайняга (былой Спаскай, Бернардынскай, Банкавай) стаяў у руінах і рыштаванні. Была надзея на яго аднаўленне, але яна не спраўдзілася... Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца слонімскі тэатр. Частка сцяны, якую бачым на фота, захавана*



*Будынак на Тэатральнай плошчы*

# Слонім у 1991 годзе

*Працяг, пачатак на ст. 1,12-13*



*Былая сінагога сіяністаў на цяперашняй Камуністычнай вуліцы*







*Жанчыны ідуць з рынку*

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29), 2018 г.,№ 5(39), № 7(41), 2019 г.; № 5(51), № 6(52), 2020 г.*



1932

Футбольнае першынство Віленскай акругі стартавала 8 траўня 1932 года. У баранавіцкай групе (падакрузе) “клясы А” ўдзельнічалі WKS 78pp Baranowicze і Makabi Baranowicze. Пра іншыя каманды інфармацыі няма. Польскія даследчыкі мяркуюць, што ў баранавіцкай падакрузе “клясы В” маглі ўдзельнічаць каманды з Ліды, Навагрудка і Слоніма. З нашага горада называюцца Makabi Słonim, ŻKS Słonim, WKS Słonim.[1] Найхутчэй слонімскія каманды ўдзелу ў турніры не бралі.

Вядома, што ў пачатку ліпеня 1932-га перамогу ў “клясе В” у Баранавічах святкаваў другі склад мясцовай каманды WKS 78pp, які выйграў у другога складу Makabi Baranowicze. У “клясе А” у баранавіцкай падакрузе перамог першы склад WKS 78pp.[2] Другая каманда WKS 78pp Baranowicze далей выступала няўдала — за выхад у “клясу А” змагалася PKS Lida, але ў верасні саступіла віленскай камандзе Drukarz (1:6, 1:2).[3]

У Слоніме ў той час не было чалавека, які б дасылаў навіны ў спартыўныя выданні. Таму на працягу 1932 года ў варшаўскім “Спартыўным аглядзе” (“Przegląd Sportowy”) пра Слонім не было ні радка! У мясцовай прэсе пра спорт пісалі мала, а пра футбол яшчэ менш.

Першы футбольны матч сезону, пра які нам вядома, прайшоў у першыя дні чэрвеня. “Навагрудскі кур’ер” паведамляў, што ŻKS Słonim у таварыскім паядынку прымаў KPW Wołkowysk (каманду чыгуначнікаў) і прайграў — 1:4.[4] Як мы ведаем, у 1930-м ŻKS далучыўся да Makabi, і невядома, ці клуб адрадзіўся, ці гэта была памылка журналіста (а іх хапала). Польскі даследчык Ян Гаксіньскі піша, што ўжо ў 1932 годзе ў Слоніме існаваў футбольны клуб Nordia[5], але ў іншых крыніцах такой інфармацыі няма.

Наступны матч адбыўся ў суботу, 11 чэрвеня. Ён прайшоў ў межах свята LOPP (Liga Obrony Powietrznej i Przeciwgazowej; Таварыства супрацьпаветранай і хімічнай абароны). На гарадскім стадыёне гулялі армейцы (WKS) і “Макабі” (Makabi). Білет каштаваў 50 грошаў, для моладзі — 20. На жаль, вынік паядынка пакуль нам невядомы.

Наступны футбольны матч праходзіў у нашым горадзе 18 ці 19 чэрвеня ў рамках свята, арганізаванага павятовым аддзелам выхавання фізічнага і вайсковай падрыхтоўкі (Wychowania Fizycznego i Przysposobienia Wojskowego). Але зноў жа вынік паядынку, як і яго ўдзельнікі, невядомыя.

Таварыскія матчы працягваліся і далей. ”Макабі” запрасіла ў Слонім аднаклубнікаў з Ваўкавыска. Яны гулялі 1 ліпеня. Слонімцы ўпэўнена перамаглі з лікам 4:1.[6]

●Сяргей Ёрш

Працяг у наступным нумары

*[1] Okręgowe rozgrywki w piłce nożnej woj. wileńskiego (1932)*
*https://pl.wikipedia.org/wiki/Okr%C4%99gowe_rozgrywki_w_pi%C5%82ce_no%C5%BCnej_woj._wile%C5%84skiego_(1932)*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1932, № 158, 6 ліпеня.*

*[3] Przegląd Sportowy, 1932, № 72, 7 верасня.*

*[4] Kurjer Nowogródzki, 1932, № 129, 7 чэрвеня.*

*[5] Goksiński J. Klubowa historia polskiej piłki nożnej do 1939 roku. Tom I. —Warszawa, 2013. S. 199.*

*[6] Kurjer Nowogródzki, 1932, № 159, 7 ліпеня.*

# У Маскве знайшліся здымкі Чамяроўскай школы і яе вучняў 1964 года

У Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве захоўваецца альбом “Чамярская васьмігадовая школа Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці, БССР”. У ім два дзясяткі фотаздымкаў, зробленых у 1964 годзе. Пад многімі з іх ёсць напісаныя ад рукі подпісы. Напрыклад, такі: *“Дарагая наша школа! У ёй навучыліся мы чытаць і пісаць…”.*

На фота — дзеці, іх бацькі і настаўнікі каля сваёй школы, у школьных майстэрні і музеі, падрыхтоўка да выступлення на вечары мастацкай самадзейнасці, а вось і само выступленне ў вясковым клубе...

Магчыма, хтосьці з тагачасных школьнікаў пазнае сябе на фота. Пішыце на адрас рэдакцыі: slonimskikraj@gmail.com







*Івана Міско (паэта Анатоля Іверса, у цэнтры) прымаюць у ганаровыя піянеры*





*Раённы піянерскі злёт*





*Дзеці займаюцца добраўпарадкаваннем тэрыторыі каля школы ў Чамярах*





*У школьным музеі экскурсавод расказвае пра гісторыю вёскі Чамяры*

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім

*Працяг, пачатак у № 8-12, 2019 г., № 2-6, 2020 г.*



— Стой, гаворыць! — крыкнуў узлаваны паліцмейстар і, калі я павярнуўся ў яго бок, [убачыў, што] да мяне з усіх бакоў спяшаліся конныя і пешыя гарадавыя. Па знешнім выглядзе я быў падобны на вучня падмайстра і фараоны*, верагодна, прынялі мяне за забастоўшчыка. Паліцмейстар падышоў да мяне.

— Хто вы такі?

— Вучань гарадской вучэльні.

— Куды вы цяпер хадзілі?

— Хадзіў у клас даведацца, ці ёсць сёння заняткі, — адказаў я.

— Куды вы цяпер накіроўваецеся і чаму вы сёння не вучыцеся?

— Іду дахаты па падручнікі, каб вярнуцца ў вучэльню.

— Прапаную вам неадкладна вярнуцца ў вучэльню!

— Я павінен спачатку захапіць падручнікі, каб…

Але ён перарваў мяне крыкам:

— Гарадавы, адвядзі яго ў клас і перадай асабіста інспектару, скажы, што я даслаў…

Выхаду не было, і я, у суправаджэнні гарадавога, накіраваўся ў вучэльню. Перамена яшчэ не скончылася і мяне сустрэў натоўп школьнікаў, якія паадкрывалі раты пры выглядзе гарадавога. На здзіўленыя пытанні маіх таварышаў я сцісла расказаў, у чым справа, супакоіў іх, але сам я спакойны не быў. У кішэні штаноў былі некалькі пракламацый, а мяне маглі абшукаць. Пад канвоем гарадавога я падняўся на ганак і ў прахожай натыкнуўся на інспектара Батурына. Не звяртаючы на нас увагі, ён накіраваўся ў канцылярыю, але яго спыніў гарадавы і, паказаўшы на мяне рукой, сказаў, што прывёў мяне на загад паліцмейстара.

Інспектар аслупянеў. Ён быў настолькі ўсхваляваны, што не мог гаварыць. Калі ён апамятаўся, ён з нейкай хвараблівай грымасай, махаючы рукой трымаючаму пад казырок гарадавому, прамовіў: *“Ідзіце, ідзіце!”* — нібы адмахваўся ад надакучлівай мухі.

Я адчуваў сябе далёка не героем і чакаў цяжкіх наступстваў. Да майго здзіўлення, ён не накінуўся на мяне са звычайным крыкам і пагрозамі, нягледзячы на тое, што быў раз’юшаны да скрайнасці. Як разумны і талковы чалавек, ён разумеў ўсю безсэнсоўнасць і недарэчнасць учынку паліцмейстара, які арыштаваў яго выхаванца, амаль хлопчыка (мне было 16 гадоў) і тым самым ён умяшаўся ва ўнутранае жыццё школы.

На яго пытанне я расказаў, што, будучы ўведзены ў зман таварышамі, што сёння ў школе заняткаў не будзе, я пайшоў у клас без падручнікаў. Але калі пераканаўся, што ўрокі праходзяць, то вырашыў збегаць на кватэру за падручнікамі, але быў арыштаваны паліцмейстарам і прыведзены сюды з гарадавым. Не ведаю, ці паверыў інспектар у шчырасць майго аповеду, але яго абурэнне супраць паліцмейстара, які *“зганьбіў”* вучэльню ўмяшальніцтвам паліцыі ў жыццё школы, не мела межаў. Батурын зрабіў мне бацькоўскае ўнушэнне і прыгразіўшы выключэннем з вучэльні *“у выпадку…”* і г. д., ён адпусціў мяне ў клас.

Цяжкі задушлівы пах ахапіў мяне, калі я ўвайшоў у класны пакой. Дыхаць было немагчыма: атмасфера была напоўнена нейкім дурманлівым з’едлівым рэчывам. Па словах таварышаў, увесь першы ўрок прайшоў у гэтай абстаноўцы, але наш настаўнік Лапа са стаіцызмам вытрымаў да канца ўрока. Ён быў злейшы за чорта, здагадаўшыся пра прычыны смуроду, але ўрокаў адмяняць не думаў. Мы таксама ўвайшлі ў азарт і перад яго прыходам вылілі на падлогу два флаконы смуроднай вадкасці. Смурод быў такі моцны, што разнёсся па ўсіх класах і пранік у канцылярыю савета. Прыбег інспектар, крычаў ва ўсё горла, распытваў, пагражаў *“адным узмахам пяра зрабіць няшчаснымі на ўсё жыццё тых, хто наладжвае паскудствы”*, але, нічога не дабіўся і сышоў. Калі ў пачатку ўрока ў клас увайшоў

Лапа, то паветра ледзь не збіла яго з ног. Ён кепска валодаў сабой ад злосці, што было відаць па падзёргванні плеч, па рэзкіх рухах і нервовым паскубванні барады.

Раскрыўшы журнал, ён з нядобрай усмешкай паглядзеў на мяне, "прайшоўся" на мой адрас наконт ранішняга інцыдэнта з паліцыяй, але аб уроках не пытаўся. У класе было ціха і мёртва, урок цягнуўся млява, бо ў такой атмасферы фактычна займацца было немагчыма, але Лапа ўпарціўся і яго, як знарок, зліпі:

— Сцяпан Мацвеевіч, мяне ванітуе, — раптам пачуўся голас Дабрыяновіча, які сядзеў на "Камчатцы" (так называлі апошнюю парту). Лапа маўчыць, нібыта не чуе, толькі твар нервова тузаецца.

— Сцяпан Мацвеевіч, дазвольце выйсці, мне кепска, — стогне Юшкевіч.

— Падыхайце, чорт з вамі! — крычыць Лапа, страціўшы цярпенне, але скаргі працягваюцца адна за другой.

— Сцяпан Мацвеевіч, галава баліць, не магу сядзець, пусціце на вуліцу, — лямантуе хтосьці зноў.

— Свінні! — шыпеў настаўнік і, гучна закрыўшы журнал, выбягае з пакою. У класе выбухае гамерычны рогат.

●А. Левандоўскі

Заканчэнне ў наступным нумары

*Слэнгавая мянушка паліцэйскіх, выкарыстоўвалася як злачынцамі, так і рэвалюцыянерамі.*

# Знаходка ў Нацыянальнай бібліятэцы

У красавіку ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі арганізавалі выставу, прысвечаную розным рэчам, знойдзеным у кнігах паміж старонак. "Засвяціўся" там і Слонім, а дакладней слонімец.

Вось што распавяла пра знаходкі ў эфіры тэлеканала АНТ галоўны бібліятэкар Марыя Шопіна: *"Рэкламныя стужкі, вельмі цікавыя ў выданнях XVIII-XXI стагоддзяў. Гэта праяздныя білеты, грашовыя знакі, гэта фотаздымкі з розных краін Еўропы. З апошніх — гандлёвыя этыкеткі. На гэтай можна прачытаць прозвішча Вольфа Бермана са Слоніма. Вядомы чалавек, які быў банкірам, зрабіў шмат добрых спраў".**

Хто ж такі гэты Берман? Ён — яўрэйскі дзеяч у нашым горадзе ў першай палове XX стагоддзя. Вядома, што нарадзіўся ў Слоніме ў 1861 годзе. Сапраўды, быў дырэктарам банка, займаўся дабрачыннасцю. У 1941 годзе падчас нямецкай акупацыі кароткі час займаў пасаду старшыні яўрэйскага савета. Быў расстраляны разам з іншымі яго членамі.**

А яшчэ вядома, што Вольф Берман у пачатку XX стагоддзя выпускаў прыватныя грашовыя знакі — 2,5, 10, 15 і 25 капеек.*** Не выключана, што і "гандлёвая этыкетка", паказаная ў сюжэце, магла выкарыстоўвацца ў якасці боны. На карысць гэтага сведчыць пастаўлены на ёй нумар.




Справа ў тым, што Берман быў не толькі банкірам, але і меў прадпрыемства. Яго ваўняная фабрыка была заснавана ў 1890 годзе, выпускала хусткі і шалікі. Працавалі 35 рабочых. Уладальнікам быў В. Берман, а непасрэдна прадпрыемствам кіраваў Ф. Берман (брат?). У фабрыкі былі прадстаўніцтвы ў Маскве, Адэсе, Харкаве, Растове, Лодзі і дзесьці ў Сібіры.****

●Аляксандр Янушка

**Матяс А. Выставку найденного между страницами представили в Национальной библиотеке // Агульнанацыянальнае тэлебачанне, 2020, 9 красавіка; https://ont.by/news/vystavku-najdennogo-mezhdu-stranicami-predstavili-v-nacionalnoj-biblioteke*

***Слонимский Ghetto - Słonim Ghetto // https://ru.qwe.wiki/wiki/S%C5%82onim_Ghetto*

****Белявский М. Слоним. Частные денежные знаки. 1860-1915 гг. // https://www.slideshare.net/mbeliavski/18-18601915*

*****Езиоранский Л. Фабрично-заводские предприятия Российской империи. — Санкт-Петербург, 1909.*

# Пра адметнасць кніг слонімскага краязнаўцы

*Чыгрын С. Цяпло Жыровіцкай святыні. — Мінск: Беларусь, 2020. — 112 с.*

Новая кніга Сяргея Чыгрына выйшла ў дзяржаўным выдавецтве да жыровіцкіх юбілеяў. Наклад па цяперашніх часах не такі ўжо і малы — 700 асобнікаў.

Пра Жыровіцкую абіцель цяжка сказаць нешта новае: асноўныя факты, даты добра вядомыя, яны вандруюць з кнігі ў кнігу. Толькі ў рэдкіх выпадках даследчыкі робяць адкрыцці. Адметнасць кнігі Чыгрына — ён не толькі піша пра святыню і яе гісторыю, але і пра людзей, лёс якіх быў звязаны з ёй ці з Жыровічамі. Гэта і нарыс пра Серафіма Жыровіцкага, помнік якому нядаўна ўсталявалі каля манастыра, тэксты пра братоў Яўгена і Уладзіміра Хлябцэвічаў, пра Аляксандра Асіпчыка, аўтара нарыса пра Жыровічы, пра паэта Зьніча, які ўжо столькі напісаў і выдаў пра жыровіцкае *"сэрца Беларусі"*.

У кнізе ёсць нарысы пра вядомых людзей Слонімшчыны, якія непасрэднага дачынення да Жыровічаў не маюць. Некаторыя з іх раней з'яўляліся на старонках "СК". Магчыма, хтосьці з чытачоў будзе расчараваны — назва кнігі нібыта сведчыць, што яна цалкам прысвечана Жыровічам, але гэта не зусім так. Іншыя, наадварот, будуць задаволеныя, паколькі азнаёмяцца з чарговым зборнікам разнастайных артыкулаў слонімскага краязнаўцы.




Гэта яшчэ адна адметнасць многіх кніг Чыгрына — ён не піша цалкам новы тэкст, а збірае іх са сваіх артыкулаў. І калі чытачы з імі раней азнаёміліся, то кнігі не стануць адкрыццём. Затое пад адной вокладкай іх зручна перачытваць, пераглядаць. Сяргей Мікалаевіч стараецца захаваць у часы панавання інтэрнэту свой творчы набытак — публікацыі ў сацсетках, на сайтах, у электронных выданнях. Цяпер яны ў любым выпадку не знікнуць, не згубяцца. Бо напісанае і выдадзенае застанецца.

●Сяргей Ёрш

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на "СК" пры перадруку абавязковая.